КАЛОНКА АЛЕСЯ НЯЎВЕСЯ

# Жанчын непрыгожых няма: як вып'еш – і жонка дарма

Вучоныя высветлілі: чым даўжэй мы глядзім на жанчыну, тым прывабней яна нам здаецца.

У кавярні
За кубачкам кавы
Я падслухаў адзін дыялог.
(Быў ён вельмі карысны, цікавы,
Дык не слухаць, прабачце, не змог.)
Усміхаўся з пачутага ўпотай,
Цікаваў спадцішка, як пацук.
З суразмоўцам уласнай турботай
Вельмі шчыра дзяліўся дзяцюк:
– Прачытаў я ў газетцы навіну
І паверыў, што ў ёй – не мана:
Калі доўга глядзець на жанчыну,
Прыгажэйшай здаецца яна.
А мяне дапякае суседка,
Можна нават сказаць – дастае
(Дзякуй Богу, мы бачымся рэдка):
Інтарэс сексуальны ў яе.
Ды ў мяне інтарэсу – ні грама.
Я да сексу, вядома, гатоў,
Толькі вельмі ўжо страшная дама,
І далёка за сорак гадоў.
Пазіраць на яе неахвота…
Але я перасіліў сябе
І ўтаропіўся ў бляклае фота,
Дзе суседка стаіць у гурбе.
Узіраўся я вырашыў доўга,
Каб настала хвіліна, калі
Мне суседка, што з тварам бульдога,
Здасца ўсё ж Анжалінай Джалі.
І суседку тады без агіды,
Так і быць, вечарком "патапчу",
Адзавуся на тыя флюіды…
Ды ажно пацямнела ўваччу,
А любімай сваёй Анжаліны
У суседцы разгледзець не змог:
Твар, так мовіць бы, просіць цагліны,
Быў "бульдог"
І застаўся "бульдог".
Дык, выходзіць, схлусіла газетка…
І таму адчуваю тугу,
Бо мяне даканае суседка.
Патаптаў бы, але не магу…
– Хіба ж ёсць для адчаю прычына?
Ты "абслужыш" суседку як след,
Бо табе падкажу, бедачына,
Што зрабіць, каб з'явіўся імпэт, –
Быў вясёлы адказ суразмоўцы. –
Каб да "страшненькай" легла душа,
Каб прачнулася бура эмоцый,
Трэба выпіць хоць трохі спярша.
Будзе жарсці ў цябе да халеры,
Не адцягнеш за вушы, бадай.
Ты не верыш?
Дык выйдзі за дзверы
І людзей навакол апытай.
Скажа кожны мужчына прахожы
Пастулат, што вядомы здаўна:
Не бывае жанчын непрыгожых –
Проста мала бывае віна.
Мне таксама памочніцай – шклянка.
Прыдае і нахабства, і сіл.
Ёсць, да прыкладу, дзеўка-каханка.
Як сказаў бы народ – "кракадзіл".
Я глытаю, сустрэўшыся, "сотку"
(Лепш за ўсё падыходзіць каньяк),
А затым і забавы ў ахвотку,
"Абслугоўваю" гэтак і так.
А калі не сто грамаў, а дзвесце
Я сабе за каўнер закладу,
Не магу і да ложка давесці,
Так бы мовіць, "тапчу" на хаду…
Палюбоўніца ёсць і на працы.
Прыгажосці ў яе – на рубель…
Але варта, як кажуць, набрацца,
І яна для мяне – як мадэль.
Трыста грамаў
Бяру я на грудзі
(Каньячок набывае яна),
І тады захлынаемся ў блудзе –
Кабінет на замку да цямна. –
Падмаргнуў субяседніку хітра. –
Для мяне непрыгожых няма.
А як вып'ю гарэлкі паўлітра,
Дык і жонка, здаецца, дарма…

НА ГРАМАДСКАЕ АБМЕРКАВАННЕ

*Гэтае інтэрв'ю спачатку з'явілася на сайце "Белпартызан". Лічым мэтазгодным азнаёміць з ім і чытачоў "Народнай Волі". Спадзяёмся на адпаведны рэзананс. Ці падзяляеце вы меркаванні спадара Янукевіча? Калі не згодны – то ў чым? Пішыце, тэлефануйце – вашы водгукі знойдуць месца на старонках "Народнай Волі".*

# Лідар Партыі БНФ – за вайсковыя парады



У сваім "Фэйсбуку" старшыня БНФ Аляксей Янукевіч апублікаваў відэа з рэпетыцыі авіяпарада, які, па словах палітыка, «не псуе асфальт і не перашкаджае дарожнаму руху». У каментарыях яго патроліў журналіст Арцём Шрайбман: «Рубрыка ШОК. Лідар БНФ падтрымаў набыццё расійскай ваеннай тэхнікі». «Беларускі партызан» спытаў у Аляксея Янукевіча, навошта патрэбны культ мілітарызму і якая наогул карысць ад гэтых парадаў?

**– Каму і што дэманструюць мірныя беларусы?**

– Я як дзяржаўнік лічу, што Узброеныя сілы Беларусі з'яўляюцца надзвычай важным складальнікам беларускай незалежнасці. Таму іх трэба ўмацоўваць. Парад у мірны час – гэта адзін з асноўных і найбольш відовішчных спосабаў дэманстрацыі патэнцыялу ўласных Узброеных сіл. Асабліва авіяцыйны парад, які не цягне за сабой ніякіх нязручнасцяў для людзей. Магчыма, шум камусьці не падабаецца. Аднак я перакананы, што іх варта праводзіць. Але і наземны парад, калі нармальна падысці да яго арганізацыі, важны і патрэбны. Менавіта як дэманстрацыя патэнцыялу і сіл уласнага войска. Я ведаю, што многія ваенныя аташэ, нават якія працуюць на некалькі краін, абавязкова прыязджаюць на вайсковыя парады ў Мінск. Яны бачаць, аналізуюць. Важна, каб яны разумелі патэнцыял і тое, што наша краіна надае ўвагу сучаснасці і баяздольнасці арміі.

Парады важныя таксама для суайчыннікаў, каб яны ганарыліся і давяралі сваёй арміі. Дэманстрацыя абараназдольнасці арміі таксама працуе на фарміраванне нацыянальнай свядомасці і ўзмацненне патрыятызму, што асабліва важна для Беларусі сёння.

**– Ды мы ж хвалімся і расійскімі самалётамі? А Партыя БНФ выступае супраць расійскай арміі ў Беларусі. Выходзіць, мы набываем тэхніку ў патэнцыяльнага агрэсара, як называюць Расію нацыянальна арыентаваныя сілы.**

– У нашым рэгіёне, гэта тычыцца і Беларусі, небяспека ваеннай агрэсіі ў першую чаргу зыходзіць ад Расіі. Так, тэхніка, якая дэманструецца, яна альбо дасталася нам у спадчыну ад СССР, альбо наўпрост набыта ў Расіі. Хоць ёсць і выключэнні – выдатная ўласная распрацоўка «Паланэз».

Што тычыцца старой савецкай тэхнікі, то яе вельмі глыбока мадэрнізавалі. Фактычна гэта новыя ўзоры ўзбраення. Навуковы і інжынерны патэнцыял Беларусі вельмі добра праяўляецца. Беларускай мадэрнізацыяй тэхнікі да сучасных узораў мы можам ганарыцца. На гэтым мы можам зарабляць, ужо зарабляем і павінны зарабляць у будучыні.

З нагоды найноўшых верталётаў, якія нядаўна набылі ў Расіі, альбо вучэбна-баявых самалётаў, то мы можам іх выкарыстаць па сваім рашэнні ў любой сітуацыі, калі гэта будзе неабходна. У кароткатэрміновай перспектыве – гэта больш пазітыўны крок беларускіх улад, чым размяшчаць у краіне расійскія часці з іх самалётамі і верталётамі. Лепш мець сваё.

Стратэгічна мы выступаем за больш цеснае супрацоўніцтва з НАТА. Мы – адзіная партыя ў Беларусі, якая выступае за ўваходжанне Беларусі ў Альянс і пераарыентацыю на стандарты НАТА ў ваеннай сферы.

## «Хочаш міру – рыхтуйся да вайны»

Праціўнікі дэманстрацыі вайсковага патэнцыялу ў форме парадаў прапануюць перанакіраваць выдаткі на больш патрэбныя рэчы, напрыклад, на медыцыну. Аляксей Янукевіч на гэта адказвае дзвюма цытатамі:

– Яшчэ старажытныя рымляне казалі: «Хочаш міру – рыхтуйся да вайны». І гэта працавала дзве тысячы гадоў таму і працуе цяпер, застаецца актуальным. Таксама ёсць трапны выраз: «Калі шкадуеш сродкі на тое, каб карміць сваю армію, – будзеш карміць чужую». Безумоўна, нам патрэбна баяздольная армія. На гэта трэба выдаткоўваць грошы.

**– Што думаеце пра пакланенне культу вайны з маленства і пра дзяцей у форме чырвонаармейцаў?**

– Трэба ўмець праводзіць розніцу паміж тупым усхваленнем савецкай спадчыны, накіраваным на ўзмацненне расійскіх і імперыялістычных ілюзій і мар, і павагай да ваеннай справы і вайскоўцаў. Дух савецчыны і культ савецкай Чырвонай Арміі, які цяпер па інерцыі з Расіі пераймаюць у тым ліку і беларускія вайскоўцы, цягнуць нас назад. Вось ад гэтага трэба адмаўляцца неадкладна. Гэта шкодна і нездарова.

Але сваё войска трэба паважаць. Заўсёды будуць дрэнныя хлопцы, трэба, каб добрыя былі гатовыя даць ім адпор.

**– Добрае і дрэннае ў нас, на жаль, вызначаюць людзі пры ўладзе…**

– Гэтае пытанне тычыцца змены ўлады, а не арміі.

Па словах Аляксея Янукевіча, дэмакратычныя краіны таксама культывуюць павагу і аўтарытэт да ўласных Узброеных сіл. Некаторыя праводзяць авіяцыйныя і наземныя парады, некаторыя здымаюць прома-ролікі і дакументальныя фільмы – «што патрабуе, па вялікім рахунку, большых фінансаў», адзначае палітык.

– Парады – гэта не толькі савецкая ці камуністычная спадчына. Вайсковыя парады – гістарычная форма. Іншая справа, сама арганізацыя і падрыхтоўка да іх – яе трэба перагледзець у Беларусі. Ёсць каласальнае поле для ўдасканаленняў. Але сам парад як дэманстрацыя вайсковых магутнасцяў і інжынернай думкі – гэта актуальна і важна. Лічу, што ўсё гэта трэба незалежнай Беларусі.

НЕОБЫЧНЫЙ ВЗГЛЯД

# Где искать потребителя?

Кризис, как говорил А.Г.Лукашенко, больше в головах, причем в головах его «вертикали». В мире нет тотального кризиса. Индия, к примеру, «растет» с темпом 7,6% в год, Китай – более 6%, наблюдается экономический рост в Германии и еще многих странах. Так что наши экономические провалы – это чисто наши экономические провалы, а Индия с Китаем, да и весь остальной мир тут совсем ни при чем.

Впрочем, надо честно признать, наша власть активно ищет потребителей для наших товаров в Африке, на «дальней дуге» и в других экзотических местах. А там и без нас хватает охочих заманить покупателей, причем их предложения в большинстве случаев более конкурентоспособны. Нашей слабой и придушенной «вертикалью» экономике не очень многое светит. Даже в той же Африке, не говоря уже о рынках Китая и Индии. Да, калийные удобрения мы туда продаем и, видимо, и дальше будем продавать. А вот с остальной «номенклатурой» проблема. Причем проблема вряд ли посильная для нашего руководства.

Правда, есть еще одна группа потребителей, которую наша власть если и замечает, то далеко не все делает для нее. Речь идет о внутренних потребителях. Власть разорила многих людей, практически лишила их статуса потребителей. Разве что продукты питания люди еще покупают почти в прежних объемах – без еды умрешь, однако. А на остальное у многих денег практически не остается. Скоро половину своих доходов белорусы будут тратить на питание, и это в среднем по стране. Во многих регионах ситуация еще хуже. А если вычесть еще расходы на «коммуналку», транспорт, «мобильник», так для всего прочего спектра товаров и услуг ничего у большинства даже работающих и не останется. Данные Белстата эту тенденцию подтверждают: опубликованы печальные данные о денежных доходах населения и количестве убыточных предприятий. Согласно официальной статистике, реальные доходы белорусов в прошлом году упали где-то на 7%. Хотя правительство планировало, что они вырастут.

В общем, наблюдается потребительская катастрофа. Причем катастрофа, которую власть устроила целенаправленно в рамках разрекламированной «финансовой диеты». Практически только «вертикальщиков» с силовиками наша власть и оставила в статусе «привилегированных потребителей», но этого крайне мало для спасения экономики. Тем более что эти потребители ничего не производят взамен. А тут нужна взаимность: экономика должна работать на потребителя, а потребитель должен работать на экономику. Если баланс смещен, причем в любую сторону, экономику ждут проблемы. У нас же те, кто производит, фактически вычеркнуты из числа потребителей, а те, кто потребляет, ничего не производят. К тому же последних хоть и запредельно много для нормальной страны, но все же очень мало для «освоения» продукции всей экономики. Да и ориентированы они все больше на импортные товары, которые качественнее, а уровень доходов «привилегированных потребителей» позволяет их приобретать. Но вот если бы потребителями хотя бы среднего, по меркам цивилизованных стран, уровня были все белорусы, то экономика смогла бы не просто пребывать в состоянии стабильности, а даже и вполне динамично развиваться, причем без «дальней дуги» и другой экзотики. Развиваться по типу швейцарской экономики, например. Прикинем, как это может выглядеть в цифрах.

При среднегодовом доходе, допустим, в 1000 долларов на душу населения все наши внутренние потребители смогут «освоить» за год менее 10 миллиардов долларов. Это примерно пятая часть от нашего ВВП. Для остального придется искать потребителя где-то за пределами страны. А, как сказано выше, стараниями нашей власти примерно столько или немногим более тратят уже в семидесяти с хвостиком регионах нашей страны. И это при том, что ВВП наш совсем не велик. В той же Швейцарии он выше нашего в 25 раз при меньшем населении – 7,5 млн человек. При среднегодовом доходе в 10.000 долларов на душу населения, а это значительно ниже среднего уровня для Западной Европы, к примеру, внутреннее потребление уже приблизится к 100 миллиардам долларов. Это значит, что сегодняшняя наша экономика сможет расти очень высокими темпами, выше китайских и индийских, только на внутреннем спросе без поиска всяких экзотических потребителей примерно десятилетие.

Понятно, эти доходы нельзя вот так просто где-то взять и дать. Это будет чистой воды популизм, который очень быстро приведет к экономической катастрофе. Однако и продолжать грабить народ, лишая людей статуса потребителя, тоже уже дальше нельзя. И этого экономика не выдержит. В принципе, и для экономики целой страны, и для отдельного семейного бюджета желательно придерживаться принципа «тратить меньше, чем зарабатывать». Иными словами, рост внутреннего потребления должен сопровождаться адекватным ростом экономики, одномоментно увеличить потребление в разы невозможно. Но вот делать это постепенно – необходимо. То есть надо менять ориентиры развития экономики. Не отказываясь от экспорта, все же с «дальней дуги» надо разворачивать экономику к своему потребителю. И параллельно надо возвращать людям этот статус потребителя, пусть и не сразу до среднеевропейского уровня, не говоря уже о швейцарском, но очень настойчиво и последовательно. Свои потребители должны иметь приоритет перед потребителями Африки. Хотя и от последних отказываться не стоит, но не путем разорения своих.

**Юрий ПШЕННИК.**

*Минск.*

ЗВАНОК У РЭДАКЦЫЮ

***Я пераканалася ў тым, што значная частка моладзі амаль не цікавіцца гісторыяй. Таму ў сувязі з 3 ліпеня нагадайце, калі ласка, праз газету, як вызвалялася Беларусь ад фашысцкіх захопнікаў.***

**Кацярына Іванаўна ЛЕМЯШЭЎСКАЯ, ветэран.**

# Як гэта было…

Каб разбіць германскую групу армій "Цэнтр", Вярхоўнае камандаванне Чырвонай Арміі распрацавала план "Баграціён" – буйнейшую ваенную аперацыю за ўсю гісторыю чалавецтва, якая праводзілася з 23 чэрвеня па 29 жніўня 1944 года.

Абарона Мінска была вельмі кароткай – ужо ў 13.00 3 ліпеня горад быў вызвалены. 5 ліпеня з "Мінскага катла" немцамі была паслана апошняя радыёграма камандаванню групы армій: "Скіньце з самалёта хаця б карты мясцовасці. Ці вы ўжо спісалі нас?»

Агульныя страты немцаў летам 1944 года перасягнулі тыя, якія яны панеслі на Волзе, пад Сталінградам. На тэрыторыі Беларусі было знішчана больш за 381 тысячу і ўзята ў палон 158 тысяч гітлераўскіх салдат, афіцэраў і генералаў.

***

За час акупацыі гітлераўцы правялі на тэрыторыі Беларусі 140 карных аперацый, падчас якіх поўнасцю альбо часткова знішчылі 5454 вёскі. На тэрыторыі Беларусі дзейнічалі 270 канцэнтрацыйных лагераў, 70 гета. Толькі ў Трасцянецкім канцлагеры знішчана 206,5 тысячы чалавек.

У Германію на прымусовыя работы было вывезена каля 400 тысяч чалавек (у тым ліку 24 тысячы дзяцей).

***

На франтах Вялікай Айчыннай вайны змагаліся 1 мільён 300 тысяч беларусаў і ўраджэнцаў рэспублікі. Вайсковымі злучэннямі камандавалі 217 генералаў і адміралаў з нашай рэспублікі.

***

Яшчэ 20 гадоў таму лічылася, што загінуў кожны чацвёрты беларус. Сучасныя гісторыкі кажуць пра кожнага трэцяга. Увогуле на алтар Перамогі склалі галовы да трох мільёнаў чалавек.

БЫЛЬ

# Дальнабойшчык

Зайздросцілі дзеці свайму сябру, 10-гадоваму Росціку, што ў яго такі цудоўны дзед! Цэлымі днямі дзед і Росцік шчыравалі ў сваім садку – усталёўвалі кабіну МАЗа, што прывезлі незнаёмыя дзядзькі, сябры дзеда.

…Калі надышоў час сыходзіць на пенсію, сабраў дырэктар шафёраў, што былі ў той час у гаражы, каб пры ўсіх сказаць некалькі слоў наконт таго, якім добрым быў Іван Лукіч дальнабойшчыкам, але, на жаль, выходзіць на заслужаны адпачынак. Атрымаў Лукіч ганаровую грамату, якіх у яго было шмат за ўвесь час працы, – кіраўнікі заўжды дурылі шафёраў граматамі, а сабе бралі грошы.

Прамаўляючы слова ў адказ, Іван Лукіч падзякаваў дырэктару і папрасіў у падарунак старую кабіну МАЗа. Заўсміхаўся дырэктар і кажа:

– Я ведаю, што ў цябе добры дом прыватнай забудовы, садок з грушкамі, навошта ж табе такое лецішча?

– Лецішча мне не патрэбна. Лепшую частку жыцця я пражыў у кабіне МАЗа і зараз у хаце заснуць не магу, не дапамагае нават валяр'янка. Вось і хачу зрабіць сабе жытло ў кабіне МАЗа.

Дырэктар даў дабро і загадаў начальніку гаража зняць кабіну са спісанай машыны, на якой працаваў Іван Лукіч, і адвезці яе ў двор наваяўленага пенсіянера.

За бутэльку гарэлкі хлопцы з гаража выканалі ўсе патрабаванні Лукіча, і такім чынам у садку з'явілася кабіна МАЗа.

З маладых гадоў у Івана былі дзве мары: назбіраць грошай, каб купіць сыну добрую хату, і праехаць па Чуйскім тракце, галоўнай транспартнай артэрыі Алтая, дзе некалі ездзіў шафёр Колька Снегіроў – герой легендарнай песні «Есть по Чуйскому тракту дорога». Грошы сабраць удалося, але ў 1991 годзе савецкая ўлада забрала іх да капейкі, а ў Чуйскі край не было рэйсаў, і далей Урала Лукіч не ездзіў.

На тым тракце ёсць помнік – руль, замацаваны ў скале на надта стромкім павароце, а далёка ў прорве ляжыць ушчэнт разбітая машына АМО. Згодна з легендай, якую выклаў у сваёй баладзе паэт М.Міхееў, у свой час на тым шляху ездзіла на зялёным "фордзе" файная дзяўчына Райка, і неяк на тым стромкім павароце ўбачыў яе Колька Снегіроў. Так яна яму ўсміхнулася, што небарака забыўся на ўсё на свеце. Але дзяўчына пагадзілася адказаць на пачуцці закаханага шафёра толькі ў тым выпадку, калі Колька на сваёй АМО абгоніць ейны "форд". Колька паспрабаваў… і загінуў.

Па тэлевізары на свята Дзень шафёра (апошняя нядзеля кастрычніка) паказвалі фільм пра той помнік. Непадалёк ад яго ёсць прыпынак, дзе спыняюцца на ноч шафёры. Вячэраюць, трошкі выпіваюць, нясуць чарачку да помніка і паліваюць гарэлкай замацаваны ў скале руль, а калі ёсць гармонік, дык спяваюць песню пра Чуйскі тракт. Шафёры сталага веку плачуць, і калі хто праязджае побач, то абавязкова сігналіць.

Не збылася мара Лукіча, але ёсць у яго касета з шафёрскімі песнямі і самая паважаная – пра Чуйскі тракт.

Праз нейкі час падораную дырэктарам кабіну Лукіч давёд да ладу: праз паніжальны трансфарматар зрабіў блізкае і далёкае святло, сігнал, прымацаваў прымач, каб слухаць "варожыя галасы" на "Свабодзе", магнітафон і люстэрка для назірання за тымі, хто хоча "абагнаць".

Да самых маразоў Іван Лукіч ходзіць начаваць у сваю кабіну, і надта добра яму там спіцца.

Калі Іван Лукіч распавядаў гэтую гісторыю, мне зрабілася сумна, што савецкі рабочы, адпрацаваўшы ўсё жыццё, зарабіў толькі на спісаную кабіну ад МАЗа.

**Павел КАРОЛІК.**

*Гомель.*

СТОП-КАДР



Як вядома, на мінулым тыдні Аляксандр Лукашэнка два дні правёў у Маскве. Дарэмна час не губляў: і з Пуціным сустрэўся, і з удзельнікамі Форуму рэгіёнаў Расіі і Беларусі меў гутарку, і з кіраўнікамі шэрагу вядомых сродкаў масавай інфармацыі не размінуўся. Больш за тое, пачаставаў іх беларускімі прысмакамі і добрымі напоямі. Бачыце, які вясёлы на здымку галоўны рэдактар радыёстанцыі "Эхо Москвы" Аляксей Венядзіктаў, які сфатаграфаваўся з прэзідэнтам Беларусі…

НАКАНУНЕ

# Берлин настраивается на тяжелый саммит G20

До саммита в Гамбурге, который пройдет 7–8 июля, остались считанные дни. Европейские участники предстоящей встречи провели в Берлине подготовительный раунд переговоров, чтобы сверить часы перед встречей в верхах. В этот же день в германском бундестаге состоялись дебаты, посвященные этому событию. С правительственным заявлением на них выступила хозяйка предстоящей встречи – канцлер ФРГ Ангела Меркель.

Она понимает, что переговоры в Гамбурге будут очень трудными, но не теряет надежды, что общими усилиями европейцы и их единомышленники смогут вразумить американского президента. Имени Дональда Трампа, правда, Меркель в своем правительственном заявлении ни разу не назвала, но всем было ясно, кого она имела в виду, когда говорила, что *«крупно заблуждается тот, кто думает, что проблемы мира можно решить путем изоляционизма и протекционизма»*.

Протекционизм, считает она, вредит всем, в том числе и тем странам, которые вводят защитные таможенные пошлины. А потому цель Меркель – добиться от участников саммита G20 единодушного выступления в поддержку свободной торговли и против обособления.

Ясно было, о ком она вела речь, и когда говорила, что *«мы не можем и не будем ждать, пока и последний человек на Земле поверит научным данным об изменении климата»*. Новые переговоры о Парижском соглашении по климату, из которого Трамп вывел США, Меркель исключает и собирается сказать об этом американскому президенту.

Выступая в бундестаге, Ангела Меркель то и дело возвращалась к своей главной мысли: проблемы в мире слишком велики, чтобы какая-либо страна могла справиться с ними в одиночку. Будь то климат, международный терроризм, глобальный миграционный кризис и десятки миллионов беженцев, эпидемии или цифровая революция. *«Мир в беспокойстве, он все более раздроблен*, – констатировала Меркель. – *И я поставила перед собой цель: саммит G20 должен показать решимость, с которой главы государств и правительств продемонстрируют, что они поняли, какая ответственность лежит на них за судьбы мира, и что они готовы брать ее на себя»*.

Пример, по ее словам, подает объединенная Европа, которая сумела преодолеть кризисные явления и теперь, подчеркнула Меркель, *«продвигается вперед в решении важных проблем нашего времени и снова с оптимизмом смотрит в будущее»*.

ДУХОЎНЫ СКАРБ

Віктар КАРАМАЗАЎ

# Зямля Фердынанда

*Фердынанд Рушчыц... Наш вялікі мастак. Што яшчэ зусім нядаўна мы ведалі пра яго? Што збераглі з ягоных скарбаў? "Каля касцёла" – адзіны, нібы выпадковы, эцюд? Летась, калі з Масквы, з Траццякоўскай галерэі, у наш Нацыянальны мастацкі музей прывезлі і на нейкія два месяцы выставілі адну з найлепшых яго карцін "Вясна", я кожны раз, падыходзячы да яе, радаваўся, як шмат нас, сённяшніх беларусаў, збіраецца тут: любуемся, нібыта молімся, як на ікону ў саборы, на гэтую красу. Сёння на маім рабочым стале ляжыць рукапіс новай аповесці "Зямля Фердынанда". Прапаную чытачам "Народнай Волі" старонкі з твора.*



Ф. Рушчыц. Дом у Багданаве (1902).

## Поле. Валы. Неба

Верасень. Надвор'е цудоўнае для працы ў полі і за мальбертам. Яшчэ ні восеньскіх дажджоў ды халадоў, ні злога ветру. Самая пара капаць бульбу, і ўсе гаспадары ў полі. Там з раніцы і бацька з работнікамі, з конямі. Там сёстры Ганна і Вольга. Туды, на сваё поле, праз малады бярэзнік, прашыты сонечнымі праменямі, ідуць і Фердынанд з матуляй. У празрыстым паветры насустрач лятуць, зіхацяць на сонейку, на твар садзяцца, ліпнуць казытлівыя павуцінкі, з бяроз пад ногі абляцае рана пажоўклае лісцейка, паветра з палёў даносіць салодкі водар пасохлага бульбоўніку, гаркава пахне ад вогнішчаў на бульбяных палетках. Фердынанд з замілаваннем пазірае на маці, ідучы побач, усміхаецца. Яшчэ зусім нядаўна, учора-пазаўчора, то ў Францыі, то ў Італіі, то ў Швейцарыі, углядаючыся ў шэдэўры прыроды, жывапісу, архітэктуры, думаў, якое шчасце выпала яму іх бачыць і як не хапае гэтакага хараства ў родным краі, а тут, як адчуваў цяпер, красы не меней, яна тут проста іншая, бо з іншымі людзьмі, з народам іншым у гармоніі, у адзінстве. З сваёй красою звыкліся, таму і мала заўважаем, цэнім. Мастак патрэбны, каб вочы на сваю красу людзям адкрыць.

Фердынанду рупіць сказаць гэта маці, а яна, ідучы, зноў пазірае на яго, пытаецца:

– Табе там сумна не было сярод чужых людзей?

Няўжо адчула тое, што падумаў? Колькі разоў па прыездзе гэта заўважаў у ёй, здзіўляўся кожны раз.

– Мне, мама, сумна не бывае там, дзе чысціня, культура, дабрыня, краса. Як мала гэтага, тады сумую. Тады ратуюся ў думках пра цябе, пра тату, пра наш дом, наш сад. – Нібыта на пытанне адказаў, але хацелася сказаць і большае. – Краса, я думаю, чужой нікому не бывае. Яна, як ёсць, слугуе не аднаму камусьці, не аднаму нават таму, хто яе стварыў, не аднаму народу, хоць ён і гаспадар яе, яна слугуе ўсім, каму патрэбная. Калі я гляджу на палотны Клода Манэ, захапляюся яго жывым паветрам, то адчуваю тое паветра як сваё, багданаўскае, вось гэтае, у гэтым бярэзніку.

– Але там, кажуць, іншае святло?

– Сонейка Бог даў адно на ўсіх. Святло і там бывае рознае. Там вочы веселейшыя ў людзей. Мы тут бачым зашмат шэрага. Баімся чыстых колераў.

– Баіцца і Куінджы? – раптам спытала маці. Ёе пытанне здзівіла Фердынанда.

– Не, мама, Архіп Іванавіч – само святло.

– Таму яго баіцца шэрань?

Фердынанд спыніўся. Спынілася і маці. Ён ёй глядзеў у вочы, яна яму глядзела ў вочы, усё роўна як паміж іх праццяваўся нячутны, але цікавы абодвум дыялог.

– Ён, мама, грэх, свята ў яго ў крыві.

З бярэзніку выйшлі на мала ўкатаную мурожную дарогу паўз гарбатае, прыбранае ўжо поле. Перад тым полем Фердынанд зноў спыніўся, здзіўлены, не мог поле пазнаць.

– Не тут, – сказала маці. – Сёлета наша бульба далей, за гэтай выспай, а тут мы жыта сеялі. Жнеям пашанцавала, была пагода. Скапаем бульбу, тады ўжо і там, і тут пераарэм. Каб толькі да дажджоў управіцца. Зямля на гэтай выспе цяжкая, суглінак, у дождж цяжка араць. Раней тут на валах аралі.

Маці, задумаўшыся, ішла далей, а Фердынанд стаяў, глядзеў на поле. Сухое ржышча свяцілася пад сонцам, іскрылася, нібыта россып залатога зерня.

Маці спынілася. Чакала сына.

Шэрая хмара схавала сонца, і поле адразу пагасла, зрабілася таксама шэрым і яшчэ больш гарбатым.

Увечары, вярнуўшыся з бульбы, Фердынанд падняўся на другі паверх у сваю новую майстэрню да мальберта, паставіў на яго падрамнік з чыстым палатном, адышоў і сеў насупраць у крэсла. Глядзеў на палатно. Яшчэ там не было ніводнага дотыку пэндзля, не гулялі ні вугаль, ні аловак, але вачэй з палатна не зводзіў, яны захоплена бліскалі, як бачылі штосьці новае, выдатнае. Ускапіўся з крэсла, падышоў да мальберта, узяў вугаль і дакрануўся ім да палатна, але руку адразу апусціў, пакінуўшы на палатне адну ўсяго кропку вугалем. Зноў адышоў да крэсла, але не сеў, стаяў – глядзеў на палатно. Другі раз падышоў больш асцярожна і вугалем правёў на палатне адну ўсяго лінію ад левага ніжэйшага кута направа скрозь да краю, то падымаючы яе вышэй, то апускаючы ніжэй, выпісваючы дугу і ў нейкіх месцах спрамляючы яе. Па той дузе паставіў рыскі – адну, другую, трэцюю, – рашуча адышоў да крэсла і апусціўся ў яго адразу. Глядзеў на палатно, пакуль на ім была відаць гарбатая, злева направа, лінія.

У вокнах за лесам садзілася сонца, залаціла яго зялёны грэбень і далёкі збег неба, а ў майстэрні ўжо сцямнела, размытай па краях светлай плямай стаяла на мальберце палатно, і не было відаць той, ад вугалю, крывой, злева направа, лініі. Толькі цяпер Фердынанд адчуў усім целам, як стаміўся. Заплюшчыў вочы.

Ноччу сасніў поле, сваё ці не сваё, адразу пазнаць не мог, хоць адчуваў быццам сваё.

(Працяг на 6-й стар.)

К ОТВЕТУ!

## Суд по делу об аварии на АЭС «Фукусима»

Трех бывших руководителей компании-оператора атомной электростанции «Фукусима-1» обвиняют в преступной халатности. Истцы считают, что на АЭС в 2011 году не были предприняты достаточные меры безопасности.

Сторона обвинения считает, что на АЭС не были предприняты достаточные меры безопасности на случай цунами. Истцами выступают пострадавшие в результате катастрофы и родственники жертв.

В марте 2011 года после сильного землетрясения и последовавшего цунами на АЭС «Фукусима-1» вышла из строя система охлаждения, что повлекло за собой расплавление активной зоны реакторов. Три из шести реакторов АЭС были повреждены. Это привело к радиоактивному загрязнению окружающих территорий. Десятки тысяч человек были эвакуированы из зоны заражения.

СИТУАЦИЯ

## Из-за агрессивной политики России раскошеливаются американцы

Подготовленный комитетом Сената по вооруженным силам США вариант закона предусматривает выделение в 2018 году Украине помощи в сфере безопасности в размере 500 миллионов долларов для борьбы с пророссийскими сепаратистами, включая поставки летального оружия.

Он также продлевает действующий запрет на прямое сотрудничество Пентагона с российскими военными, введенный после аннексии украинского Крыма в 2014 году.

Кроме того, комитет одобрил выделение 4,6 миллиарда долларов на Европейскую инициативу сдерживания – проект Пентагона, нацеленный на укрепление безопасности на восточном фланге Европы.

Около 100 миллионов долларов из этой суммы пойдут на поддержку совместной программы, в рамках которой Пентагон помогает странам Балтии «повысить свою сопротивляемость и нарастить потенциал для сдерживания российской агрессии», говорится в кратком описании законопроекта, опубликованном комитетом.

«Комитет считает, что Соединенные Штаты должны принять дополнительные меры для сдерживания российской агрессии, будь то за ее границами или в киберпространстве, – говорится в описании законопроекта. – Россия продолжает оккупировать Крым, дестабилизировать обстановку в Украине, угрожает нашим союзникам (по НАТО), нарушает Договор о ликвидации ракет средней и малой дальности (РСМД) и поддерживает режим Асада в Сирии».

ПОЗИЦИЯ

## «Золотая эра» американской энергетики

В конце минувшей недели президент США Трамп выступил в Вашингтоне с программной речью, посвященной энергетической политике своей администрации. Его приоритеты: ослабить государственное регулирование бизнеса и обеспечить Америке независимость и максимальную свободу действия на международной арене.

Речь Трампа венчала так называемую «Неделю энергетики». Критики президента из экологического лагеря называют ее «Неделей грязной энергетики» и просят Конгресс заблокировать инициативы по расширению производства угля, природного газа и мирного атома.

– Главный тезис речи Трампа – необходимость уменьшить зависимость Америки от импорта нефти, преимущественно с Ближнего Востока, и сделать ее нетто – экспортером энергоресурсов, прежде всего путем ослабления бремени государственного регулирования энергоиндустрии. В идеале, как это видится Трампу, Америка должна обрести полную энергетическую независимость, – говорит профессор экономики военного колледжа «Цитадель» в Южной Каролине Ричард Эбелинг.

– Как бы примитивно ни выглядели взгляды Трампа с позиции экономической теории, на практике они могут иметь благие последствия, полагает профессор Эбелинг.

У НИХ

# Шестичасовой рабочий день станет нормой?

Рабочий день давно закончен, но сотрудники одной крупной компании в Копенгагене продолжают сидеть за рабочими столами. Сверхурочные часы для них норма. Так работать молодому специалисту Мадсу Блюхеру не хотелось.

Теперь он руководит небольшой, но собственной фирмой Translated By Us. И работают здесь действительно по-другому: после шестичасового дня каждый из сотрудников может идти домой – зарплату ему начисляют как за все восемь часов.

«Если работать дольше, это вовсе не значит лучше», – рассуждает Мадс Блюхер в интервью «Немецкой волне». Эти два часа вовсе не урон, подчеркивает он. Скорее наоборот: сжатый рабочий день заставляет концентрироваться на самом важном и работать более эффективно.

Каждое утро вся команда дружно обсуждает основные задачи дня. «Это создает позитивную атмосферу, ведь каждый точно знает, что от него ожидается», – поясняет 34-летний предприниматель. Сделал дело – и можно со спокойной душой идти домой, заниматься всем, что пожелаешь.

Конец рабочего дня вскоре после обеда – многим кажется утопией. Результаты последних исследований показывают, что почти половина трудящихся в Германии страдает от постоянного перенапряжения на работе. Головные боли, бессонница и эмоциональное истощение вплоть до депрессии – такие симптомы настораживают. Но готовы ли работодатели что-то изменить?

Фирма Translated By Us отнюдь не первая ласточка, что касается укороченного трудового дня. Многие предприятия в странах Европы и Скандинавии решили опробовать столь заманчивую модель. Автозавод Toyota в Гётеборге сократил рабочие смены 15 лет назад – рабочие довольны, а завод получает ощутимую прибыль.

Так что же важнее – здоровье, довольные своим трудом сотрудники или сокращение затрат? Разумно ли перевести всех без исключения на шестичасовой рабочий день?

## Ветер перемен

Нет. Ответ сотрудника Института исследования перспектив рынка труда (IZA) Вернера Айххорста звучит более чем отрезвляюще. «Это не панацея и не какой-то генеральный принцип, который можно внедрить на практике повсеместно и в кратчайшие сроки», – заявляет эксперт. Нет никакой гарантии, что объем работы, рассчитанный на восемь часов, будет выполнен за шесть. Если вся страна перейдет на сокращенный рабочий день, считает он, в первую очередь пострадает экономика. Понадобится больше рабочих, а значит, средств для зарплаты. «Скорее всего появится и острая нехватка специалистов», – предупреждает эксперт.

Впрочем, для некоторых предприятий такой рабочий день вполне приемлем, соглашается он. «В данное время идут жаркие дискуссии о том, что такое работа, какое время должно быть отведено для отдыха, где границы нагрузки», – говорит Вернер Айххорст. По его словам, в Германии понятие классического восьмичасового рабочего дня постепенно уходит, многие фирмы вводят скользящий график, разрешают сотрудникам работать дома. А некоторые работодатели и вовсе упраздняют обязательные часы работы, предоставляя сотрудникам самим решать, когда им удобнее справляться с поставленной задачей.

Все зависит от профиля предприятия, считает Деклан Кашин из веб-агентства Potato. Сотрудники агентства работают в Лондоне, Бристоле, Сан-Франциско и других городах мира. Строго регламентированных часов работы у них нет, ведь главное – результат. В этой фирме Деклан Кашин всего четыре месяца, но свои выводы он уже сделал.

«Пик работоспособности у разных людей в разное время», – рассуждает он. И это в интересах фирмы – как можно эффективнее использовать трудовые ресурсы, добавляет он. Раньше Деклан Кашин работал журналистом, ненормированный рабочий день ему очень хорошо знаком. Теперь ему гораздо легче планировать свое время, чередуя работу с отдыхом.

ДУХОЎНЫ СКАРБ

# Зямля Фердынанда

(Працяг. Пачатак на 5-й стар.)

Імжыў ціхі дождж, і яно, узаранае, ляжала аж чорнае, але блішчэла, як ад святла пад месяцам. На краі поля, каля мяжы, пад парасонам стаяла маці, на тым нібыта месцы за дробным бярэзнікам, дзе ўдваіх надоечы стаялі. Чуваць быў злосны мужыцкі голас і ціхі, спачувальны, мамін: “Навошта ён гэтак на бедную жывёлу?” Фердынанд глядзеў у той бок, куды глядзела маці, адкуль голас чуўся, нікога там не бачыў. І раптам над рысаю, за якой поле знікала і пачыналася неба, заўважыў нейкі рух, штосьці жывое. Дзве галавы рагатыя, адна з адной як звязаныя, з зямлі ўзнімаліся, буйнелі. Пад імі, ужо буйнымі, заўважыў ногі жывёлы ў калматай рудой поўсці, пераступалі, як на адным месцы мясілі гліну, і крыху вышэй, за імі, два тулавы, спіны гарбатыя. Быкі? Марудна набліжаліся яны, і набліжаўся тым самым малым крокам да іх нібы прывязаны, за імі следам, мужык у доўгай кашулі, махаў над галавой і над быкамі бізуном.

Прачнуўшыся, Фердынанд ляжаў у ложку і думаў, з чаго сон узяўся. Успомніў, як маці казала пра валоў, якімі ў Багданаве аралі поле, калі яна за бацьку выйшла, сюды прыехала. Адтуль і сон з валамі, з мужыком, аратым на гарбатым полі? Яны ад веку разам, паміж сабой як звязаныя адною доляй. Дык што гэта? Ці не карціна новая? Пачатая ў сне?

Увесь дзень прастаяў ля мальберта. А што зрабіў? Ад раніцы шмат у вачах і думках здавалася цікавым, новым. Малюнак карціны, быў упэўнены, адчуў, быццам намаляваў у сне нават у дэталях, усё было, каб выбудаваць вобразы: поле, валы, араты – ніякай лішніцы. Сцёр учарашні на палатне вугаль, паклаў усе гарызанталі, вертыкалі, знайшоў адразу дынамічны контур: не выдумляў, з натуры перанёс, каб поле, аснова будучай карціны, было сваім, у душы будзіла радасць. Ад палатна адышоў, даў волю сумненням і нішто не зганіў. Паспрабаваў намаляваць валоў, але адчуў, што месца, ракурс іх у агульнай кампазіцыі павінна вызначыць святло – пачаў шукаць тон і фактуру зямлі і неба. Ды тут ужо тое, што здавалася ледзьве не вырашаным, аказалася далёка не простым. Як быццам знайшоў прапорцыі зямлі і неба, зямлі, хоць і было тут поле роднае, не даў прасторы, даў ўладу, глыбіню небу, якое і раней не крыўдзіў у сваіх работах, усё зямное ім вымяраючы і вызначаючы, ужо клаў колер плямамі, між іх шукаў танальныя адносіны, і раптам пра валоў, пра мужыка падумаў – спахапіўся: карціна – не чысты пейзаж, не краявід, на якіх рука набітая? Тут – што галоўнае? Хіба не мужык, не яго доля? А як глядзецца будзе ён, калі валоў паставіць буйным планам, калі валы на гледача карціны пойдуць? Мужык – за імі, за сахой ці плугам – у дальняй перспектыве? Адтуль што зможа ён сказаць людзям, якія будуць разглядаць карціну? Дык дзе валоў паставіць, каб мужыка не заганялі ў кут? Каб і яны глядзеліся, і ён не згубіўся?

Шукаў ім сваё месца і не знаходзіў. Даймаць пачалі сумненні: а ці патрэбны тут мужык і ці патрэбныя валы? А як без іх? Тады навошта поле?

Успомніў, што напісаць багданаўскае поле марыў і летась, і пазалетась, але не гэтае. То жыта наліўное захапляла, то лапушыстыя бульбяныя шнуры, то грэчка ў час квітнення, палі ў аздобе васількоў па межах, у іх прасторы дубы ды ліпы векавыя глядзеліся з не меншай веліччу, як хвоі ў Шышкіна па жыце, і лён з цыкорыем – таксама казка. Але ўсё тое ў колеры, як краявіды. Там – лірыка, тут – эпас. Звычайна бачыў красу ў прыродзе, а тут усё пад гарбом мазольным: валы, мужык і нават зямля, поле. Здзіўляўся сам, як гэтак атрымалася, што ён, заўсёды ўражаны красой прыроды, у каларыце знаходзячы натхненне для работы, не пазбягаючы і казачных матываў, адчуў і ўбачыў натуру як бы не сваю, не ў сваіх настроях, праўду сярмяжную, нават тыповую ў сваёй сярмязе не толькі для вала ці мужыка, але і для роднага краю. Уразіў матчын успамін? Але ж ён быў лакальны, як выпадковы штрых, малюнак, а тут, у межах палатна, – гісторыя, праўда эпічная. З якіх крыніц у ім, у лірыка, рамантыка, з’явілася ахвота гэта пісаць?

Не ўсё, што ўжо было на палатне, мог вытлумачыць, не ўсё яшчэ, працуючы над тэмай і тры дні, і чатыры, адчуваў, што ўжо ёсць і чаго яшчэ няма, бо і сябе, сваю душу, не разумеў да канца. Але валы знайшлі ў карціне сваё месца, глядзеліся не толькі як ахвярнае цягло, але і як прырода, магутная ды непакорная, глядзеўся і мужык за імі і над імі. Адчуўшы гэта, сеў Фердынанд за сшытак і ў ім пакінуў запіс:

“Нарэшце размясціў валоў. Усё мяняў, перарабляў. І не шкадую. Гэта добра. – Адсунуў сшытак ад сябе, каб устаць з-за стала, але задумаўся, нібы над тым, ці ўсю праўду сказаў. Зноў сшытак да сябе падсунуў, дадаў радок: – Валы, здаецца, атрымаліся. А ці тое, што трэба, неба?”

Адны сумненні супакойваў – з’яўляліся другія. Але яны, калі ўжо карціну бачыў перад сабою не ў кавалках – цалкам, не хвалявалі. Нават тады, як у майстэрню заглядала маці, яго тут, у Багданаве, эксперт мастацкі, больш строгі часта, як сам ён. Садзілася перад карцінай у крэсла, з кішэні даставала акуляры, даўжэй, як звычайна, у сваім пакоі ці на кухні, працірала ражком хусцінкі шкельцы, а ён стаяў паміж новай карцінаю і ёю, як некалі перад Куінджы, чакаў, што скажа.

Цяпер яна прыйшла, калі ўбачыла, што не хвалююць яго ўжо валы, што непакоіць іншае. Зноў села ў крэсла, працёрла і надзела акуляры, углядалася ў карціну доўга. Спытала:

– Адсюль куды ты павязеш работу?

Пытання гэтакага не чакаў:

– Ну як куды?

– Каму яе пакажаш?

– Павязу ў царскую сталіцу, там будзе вясновая акадэмічная выстава. Амаль адначасова з ёю адкрыюцца выставы Дзягілева, перасоўная. На перасоўную я не замахваюся, але акадэмічная – мая, і запрашае Дзягілеў.

– Але мне, сын, здаецца, што ты з гэтай карцінаю або спазніўся, або паспяшаўся. Перасоўнікі гэтак раней пісалі, калі былі сапраўднымі народнікамі, ішлі ў народ, народу спачувалі. Цяпер яны тваіх валоў і мужыка не зразумеюць. А Дзягілеў? Яго хвалюе “Свет мастацтва”, мастацтва там – салон, валоў ён у свой салон не пусціць.

Яшчэ ніколі не спяшаўся аспрэчваць думак маці, бо верыў у яе мудрасць і мастацкі густ. Але цяпер зрэагаваў не як заўсёды:

– Мастак, працуючы, не можа ўлічваць чыесьці густы. Ні перасоўнікі, ні Дзягілеў мне падказаць нішто не могуць. У мяне свой густ і свае нормы. Я іду ад сваіх каранёў, якіх ніхто ў мастацтве, акрамя мяне, не ведае. Я не для іх пішу і нават не для выстаў, а для сябе. Мне цікавей і даражэй, што скажаш пра карціну ты, бо ты – мая аснова, у табе маё карэнне, мая душа.

– Мне, Фердынанд, твая карціна падабаецца. Нават і больш за тое. Дзіўлюся, як ты мяне тут зразумеў.

– Цябе?

– Так. Я ўспомніла, табе сказала, як мы ішлі на бульбу, пра валоў, нічога большага тады я не казала, хоць думалася шмат пра што. Я ж, калі поле на валах аралі, была такая маладая, тымі вачыма глядзела на ўсё, на мужыкоў, аратых, на валоў, на гэтую зямлю. Былі і радасць, і слёзы. Усіх маладое сэрца любіць хацела, усім спачувала. І мужыкам, і валам. І ты цяпер нібы тым маім сэрцам напісаў. Як змог ты гэтак?..

– Змог, мама. Бо гэта маё таксама поле. І мае валы.

Не да канца сказаў тое, што падумаў, што ў гэтую хвіліну яшчэ хацеў сказаць, замоўк, убачыўшы, як маці нервовую рукою сціснула ў кулаку ражок хусцінкі, што на плячах ляжала, прыкрыла вочы.

Абое памаўчалі. Яна паднялася з крэсла.

– Ну... ты мне прабач.

Ён падышоў, абняў яе.

– І ты прабач мне, мама. Дзякуй за валоў.

(Працяг ў наступных нумарах).

НЕ ПРОПУСТИТЕ!

# Классика у Ратуши

*Третий год подряд фестиваль «Классика у Ратуши с velcom» соберет любителей музыки в белорусской столице.*

На протяжении восьми летних субботних вечеров вниманию слушателей и зрителей фестиваля будут представлены восемь программ, содержание которых непосредственным образом связано с мировыми шедеврами классической музыки и композиторами, чьи имена знакомы даже далеким от классической музыки людям. Их представят минской публике коллективы и артисты, хорошо известные как в Беларуси, так и далеко за ее пределами: Государственный академический симфонический оркестр Республики Беларусь, Государственный камерный хор Республики Беларусь, концертный оркестр «Немига», заслуженный коллектив Республики Беларусь «Гродненская капелла», музыкальная капелла «Сонорус».

### 8 ИЮЛЯ НА ДЕНЬ РОЖДЕНИЯ ОРКЕСТРА

В этот вечер на сцене выступит главный оркестр страны, уникальный коллектив, один из старейших оркестров бывшего Советского Союза, основанный в апреле 1927 года. В этом году **Государственный академический симфонический оркестр Республики Беларусь** отмечает свое 90-летие, и мы все приглашены на день рождения оркестра. Нас ждет праздничный концерт, в котором прозвучат жемчужины симфонической и оперной музыки в исполнении именинника и приглашенных солистов:

Оксаны Волковой (меццо-сопрано, Беларусь), Кристиана Бенедикта (тенор, Литва), Ирины Крикуновой (сопрано, Россия). Главный дирижер – заслуженный деятель искусств России, лауреат Государственной премии Беларуси, кавалер ордена Франциска Скорины, народный артист Беларуси Александр Анисимов.

### 15 ИЮЛЯ ДИРИЖЕРЫ НАСТРОЕНИЯ

Ощутите атмосферу праздника, ведь прозвучат фрагменты из оперетт несравненных композиторов Иоганна Штрауса, Имре Кальмана и их оркестровая музыка – польки, галопы, вальсы. Незабываемое звучание голосов, которое в заключении вечера подарит слушателям Государственный камерный хор Республики Беларусь, поможет в полной мере ощутить величие бессмертной классики.

### 22 ИЮЛЯ TOUR DE CLASSIC

Tour de classic – это лучший подарок тем, кто готов открыть свое сердце музыке. Прозвучит история музыкальной Франции – сольные, ансамблевые и оркестровые произведения композиторов, являющихся гордостью нации, в исполнении лучших мастеров искусств Беларуси и приглашенного гостя из Франции – баритона Оливье Этта.

### 29 июля МУЗЫКАЛЬНЫЙ АНСАМБЛЬ

Этот неординарный музыкальный вечер посвящен творческому альянсу классической музыки с джазом Ансамбль ударных инструментов Grig Percussion Group. Концертный оркестр «Немига». Дирижер – Александр Сосновский. Квинтет Jazzology.

### 5 августа ВРЕМЕНА ГОДА

Тема времен года занимает композиторов уже многс веков подряд. Свое представление на этот счет есть и у известных всем композиторов, чьи произведения услышат зрители в этот вечер: Астора Пьяццоллы, Петра Ильича Чайковского, Антонио Вивальди. NOUVELLE PHILHARMONIETRIO (Беларусь-Франция-Нидерланды-Германия). Артем Шишков – скрипка. Сергей Смирнов – фортепиано. Дмитрий Цыпкин – виолончель. Струнный оркестр Консерватории музыки им. Джузеппе Тартини (г. Триест).

### 12 АВГУСТА БЕЛОРУССКАЯ РАПСОДИЯ

В основу вечера ансамбля «Минск-Классик» вошла музыка из кинофильмов 60-70-х годов, написанная выдающимся белорусским композитором Евгением Глебовым: «После ярмарки» (по мотивам «Павлинки»), «Весенняя сказка», «Последнее лето детства», «Саша-Сашенька», «Троянский конь», снятых на студии «Беларусьфильм». Продолжат программу произведения, написанные белорусскими композиторами для музыкального театра, в исполнении солистов и музыкальной капеллы «Сонорус».

### 19 АВГУСТА КЛАССИКА БЕЗ ГРАНИЦ

I, CULTURE Orchestra (ICO) – это ансамбль необыкновенно одаренных молодых музыкантов из Польши и стран «Восточного партнерства» – Армении, Азербайджана, Беларуси, Грузии, Молдовы и Украины, созданный в 2011 году Институтом Адама Мицкевича. Музыканты, участвующие в текущей версии проекта, были отобраны из нескольких тысяч кандидатов. Международный I, CULTURE Orchestra. Дирижер – Андрей Борейко.

### 26 АВГУСТА ЕЕ ВЕЛИЧЕСТВО КЛАССИКА

Главный симфонический оркестр страны под управлением маэстро Александра Анисимова приглашает слушателей на заключительный концерт «классических суббот». В исполнении оркестра и солистов прозвучат жемчужины мировой классической музыки, доступные благодаря своей популярности и демократичности зрителям с еще малым филармоническим стажем и способные подарить минуты духовного удовольствия истинным ценителям высокого искусства.

Государственный академический симфонический оркестр Республики Беларусь. Дирижер – народный артист Беларуси Александр Анисимов. Ирина Крикунова (сопрано, Россия). Тимур Сергееня (фортепиано, Беларусь – Бельгия).

ПАШАНЦАВАЛА!

# Беларус выйграў у покер 676 тысяч долараў



Мінчанін Ігар Сойка заняў другое месца ў покерным турніры, які прайшоў у Лас-Вегасе, і атрымаў 675.995 долараў прызавых.

Каб апынуцца за сталом, кожны ўдзельнік павінен быў выкласці ўступны ўзнос у 1500 долараў. У выніку гэта зрабілі 6716 чалавек. Такім чынам, прызавы фонд склаў больш за 9 мільёнаў долараў.

У фінальнай раздачы Ігар Сойка змагаўся з амерыканцам Браянам Юнам. У яго на руках былі туз і васьмёрка пік, у апанента – кароль і дзясятка чарвей. На жаль, прыйшла дзясятка бубен, і першае месца разам з 1.094.349 долараў дасталася Юну.

Ігару Сойку 30 гадоў. За сваю кар’еру ён выйграў 2.590.020 долараў. У 2014 годзе ён атрымаў на адным з турніраў 989.263 долараў прызавых.

СІТУАЦЫЯ

# Колькі павінен дзяржаве Сяргей Скрабец?

*Былы дэпутат Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу працягвае кампенсаваць матэрыяльны ўрон.*

Нагадаем, у свой час былы генеральны дырэктар ЗАТ “БелБабаеўскае”, экс-дэпутат Палаты прадстаўнікоў **Сяргей Скрабец** быў адпраўлены за краты за нанесены дзяржаве матэрыяльны ўрон. У Палаце прадстаўнікоў Скрабец узначальваў дэпутацкую групу “Рэспубліка”, якая была ў адкрытай апазіцыі да ўлады.

Выйшаўшы на волю ў 2006 годзе, ён беспаспяхова спрабаваў уладкавацца на працу, хаця нейкія “прасветы” ў гэтым накірунку і былі. На сённяшні дзень былы апальны дэпутат павінен дзяржаве каля 150 тысяч рублёў.

*“Я нават дакладна і не ведаю, колькі дакладна грошай на гэты момант павінен дзяржаве*, – распавядае экс-дэпутат. – *Сума некалі разоў індэксавалася, зараз быццам бы павінен каля паўмільярда недэнамінаваных рублёў. Хаця асабіста мне нічога не паведамляюць”.*

Па словах Скрабца, ён нідзе не працуе, але даглядае за бацькам, які з’яўляецца інвалідам I групы.

*“Атрымліваю 170 рублёў дапамогі па доглядзе, але з іх 60 рублёў штомесяц выплачваю дзяржаве,* – дадае ён. – *Улічваючы, што на працу нідзе не бяруць, а дапамогу атрымліваю зусім маленькую, то з такімі тэмпамі пагашаць доўг давядзецца да канца жыцця”.*

**Віктар ШПАК.**

СОР ИЗ ИЗБЫ

# Что же вы делаете, Максимовна?



Давно не был на даче: в отпуске отдыхал на Черном море. И вот я возле дома. Открываю калитку, оставляю сумку у забора и сразу же в огород. Как тут мои огурчики, помидорчики, свекла, цветы? Наверное, их заглушили сорняки…

Так и есть! Но что это? На грядках появились какие-то камни, ломаные прутья, куски проволоки, тряпки. Откуда все это? Справа у меня соседей нет – проходит дорога. Слева – хозяйничает пенсионерка Раиса Максимовна. Заметив меня, уходит в дальний угол участка. Пытаюсь заговорить с ней:

– Как дела, Максимовна? Что у вас выросло? Что радует? Что огорчает?

Почему-то молчит. Потом болтаю о том, о сем. Рассказываю, как отдохнул, как доехал, чем буду заниматься. Что ни говорите, люблю общение.

Максимовна что-то буркнула себе под нос, молчит. Разговор не получается. «Прелюдия» закончилась. И я задаю вопрос напрямую:

– Вы не видели, кто это мог на мой участок столько всякой всячины набросать? Посмотрите, чего здесь только нет…

– А я откуда знаю?

На вопрос ответила вопросом. Замолчала и ушла в дом. Ладно, прутья и тряпки отнесу на кострище, камни сложу в кучу возле дома (всегда пригодятся), пристрою куда-нибудь и проволоку (в хозяйстве не помешает). Не ругаться же с соседкой, надо жить мирно. Да к тому же истина всегда верна: не пойман – не вор. Если эти «чудеса» она вытворяет, то поймать ее за руку никогда не поздно.

Однажды приезжаю на дачу уже под вечер, решил заночевать – завтра у меня выходной. Молча захожу на участок и направляюсь к смородине. Ягоды уже созрели. Нагибаюсь к кусту и собираю их в пригоршню. Слышу, что-то шлепнуло мне на плечи, на голову. Глядь – да это же сорняки. И летят они на меня с участка Раисы Максимовны. Она, повернувшись к забору спиной, пропалывает землянику и бросает их на мой участок.

Обнаглела соседка. Поднимаюсь во весь рост и возмущаюсь:

– Что же вы делаете, Максимовна? Зачем на мой участок бросаете всякий мусор?

– Это ветер к вам его заносит, – оправдывается соседка.

– Какой ветер? – снимаю с головы корни пырея и показываю ей. – Ветра сегодня нет. Смотрите, листья на деревьях даже не колышатся.

– Значит, вчера ветер сорняки вам набросал.

– А свежие сорняки на голове у меня! Как это понимать?

Никакие оправдания не годятся. И она опять уходит в дом. Ушли с огорода и две ее дочери. В знак солидарности с матерью перестали потом со мной здороваться. Кстати, я и раньше замечал, что они тоже в мой огород бросали всякий мусор. Но я молчал: не хотел из-за каких-то мелочей портить отношения с соседями.

Претензий накопилось предостаточно. Хотел было спокойно поговорить с Максимовной, но она меня опередила.

– Почему не скашиваете одуванчики? – пристала ко мне соседка. – Семена созревают и ветром переносятся на мой участок. У меня без ваших сорняков забот хватает. Если не наведете порядок – напишу заявление в сельсовет. Оштрафуют и заставят вас соблюдать порядок.

Объяснять ей, что ветер разносит летающие семена-«парашютики» на большие расстояния, бесполезно. Как же успокоить неугомонную пожилую женщину? Придумываю такой вариант. У нас на работе, говорю, один дачник пожаловался в сельский Совет: дескать, пчелы мешают работать в огороде. Приезжает через неделю этот жалобщик на свой участок и вместо дома видит обгоревший камин. Никаких построек больше нет. Раиса Максимовна внимательно выслушала мой рассказ и исчезла. После этого со мной больше не разговаривает. Ну и пусть! Однако претензий от нее не слышу.

Зато какой замечательный сосед живет через дорогу! Он немного моложе меня, но общаемся с ним как друзья. «У вас, – говорит мне Анатолий Петрович, – посреди участка растет старая береза. Она из земли вытягивает все соки, затеняет ваши гряды. Может быть, ее надо убрать? Хотите, я вам помогу?».

Сосед прав. Толку от березы никакого. Давно хотел ее спилить, да сделать это не так-то просто. Ее сучья при падении могут повредить крышу, поломать ближайшие деревья. Рассказал соседу о своих опасениях, но он (физик по образованию) меня успокоил. «Я сделаю так, что определю угол падения – и все будет в порядке», – заверил меня Анатолий Петрович.

Сосед залез на березу, спилил опасные сучья, привязал веревку, чтобы можно было наклонить дерево в нужном направлении. Потом подпилил ствол. Мы напряглись – и береза рухнула. Ничего не было повреждено. Вы думаете, мне надо было, как водится, «проставлять» соседу за его труд? Ничего подобного: Анатолий Петрович – непьющий человек. От спиртного отказался.

Провозились мы с этой березой часа два. Он помог мне и распилить ее, и поколоть. Короче говоря, все привести в порядок. Вроде бы у самого на участке нет дел. Я хотел ему в чем-то помочь – отказался. «Спасибо, – говорит, – сам управлюсь». А еще хотя бы такой факт добрососедской дружбы: никогда один на электричку не пойдет – только вместе. Идем, болтаем о том, о сем. Смотришь, и время быстрее пролетит.

Когда я рассказываю о соседях, то вот о чем думаю. Зачем люди обзаводятся дачами? Одни – чтобы выращивать там овощи, фрукты, всякую зелень, цветы. Другие – чтобы отдохнуть на свежем воздухе (и никаких там грядок!). Третьи – чтобы вдали от города совмещать и то, и другое. Но ни в коем случае никто из нас – дачников не хочет наживать там врагов, недругов, чтобы устраивать пьянки-гулянки, скандалы, а то и драки. Ведь мы, как правило, берем туда своих детей и внуков (больших и маленьких) и хочешь, не хочешь показываем им, кто мы такие. А они, как губка, впитывают от нас все – и хорошее, и плохое. Хотим мы того или не хотим. Единственный выход из этой ситуации – всегда и во всем быть добрыми соседями, разумно себя вести. И никогда своим поведением не унижать других. Все это прописные истины. Нам они понятны. Но самое главное – не забывать о них и жить с соседями в дружбе и согласии.

**Александр ХОРОБРОВЕЦ.**

Народная Воля http://www.nv-online.info
4 ЛІПЕНЯ 2017 г.

ПА-ЗА ГУЛЬНЁЙ

Алесь СІВЫ



# Аўрал!

Яшчэ тыдзень таму сітуацыю ў хакейным мінскім "Дынама" можна было ахарактаразаваць словамі кінагероя з адной добра вядомай камедыі: "Чуе маё сэрца, што мы жывём напярэдадні грандыёзнага шухера!" Праўда, і кіраўніцтву клуба, і ігракам, і балельшчыкам, думаю, было не да жартаў. Што ж здарылася з "флагманам беларускага хакея"?

У мінулым сезоне "Зубры" не сказаць каб нахапалі зорак з неба, але і пастаўленую задачу выканалі – патрапілі ў плэй-оф першынства Кантынентальнай хакейнай лігі. Пры гэтым хакеісты ў асобных матчах паказвалі волю да перамог, "на характары" выцягвалі некаторыя, здавалася б, безнадзейныя матчы, за што і былі ўзнагароджаны даверам балельшчыкаў – апошнія, нягледзячы на эканамічны крызіс і часовыя цяжкасці, ішлі на "Мінск-Арэну" падтрымаць любімую каманду. Безумоўна, вялікая заслуга ў гэтым была галоўнага трэнера "Дынама" Крэйга Вудкрафта. Канадзец, які падпісаў кантракт супрацоўніцтва на тры гады, дзейнічаў па сваім плане, які быў просты, але тым не менш эфектыўны – маладыя беларускія хакеісты павінны былі вучыцца прафесіяналізму ў вопытных замежных калег. За тры гады Вудкрафт абяцаў падняць "Дынама" і хакеістаў на новы ўзровень і, здавалася, нічога не абяцала навальніцы.

Але "шчасце" для каманды прыйшло зусім з іншага боку. У маі, пасля няўдалага выступлення беларускай зборнай, старшыня Назіральнага савета рады ХК "Дынама-Мінск" Ігар Шуневіч нечакана абвясціў: *"Кіраўніку дзяржавы прапанавана новая канцэпцыя развіцця клуба. Адзін з накірункаў канцэпцыі – поўная адмова ад легіянераў. Думаю, што ідэя будзе рэалізавана ўжо ў гэтым сезоне"*. І калі для балельшчыкаў гэтыя словы былі сенсацыяй, то для трэнера яны сталі самым сапраўдным шокам!

Канадзец, відаць, за год жыцця ў Сінявокай так і не прызвычаіўся да "беларускіх рэформ", якія могуць прылятаць "зверху", як снег у ліпені. Але рэфармаванне на гэтым не скончылася. Два памочнікі Крэйга Вудкрафта таксама аказаліся па-за гульнёй, і вось тут канадскі спецыяліст ужо пачаў чухаць патыліцу. Увесь яго план пайшоў кату пад хвост. Праўда, у канадца быў, як аказалася, запасны варыянт, і ён яго хуценька рэалізаваў – сабраў чамаданы, памахаў рукой "рэфарматарам" і ў адзін момант аказаўся ў Швейцарыі, дзе ўзначаліў мясцовы "Сервет". Нават ад матэрыяльнай кампенсацыі за датэрміновае скасаванне кантракта Крэйг адмовіўся, пра што радасна заявілі кіраўнікі клуба. Маўляў, сэканомілі. Праўда, пра эканомію казаць, відаць, рана, бо, як кажуць, скупы плаціць двойчы. Сезон пакажа, як павядуць сябе балельшчыкі, калі чарговы эксперымент накрыецца медным тазікам.

А за тыдзень да пачатку трэніровачнага лагера ў "Дынама" быў самы сапраўдны аўрал. У клуба не было ні галоўнага трэнера, ні яго памочнікаў, ні сфарміраванага складу каманды. А ў дадатак – яшчэ і пазыкі перад ігракамі. Заставаліся толькі добрыя ўспаміны пра мінулы сезон ды надзея, якая, як вядома, памірае апошняй.

Натуральна, што ў такой сітуацыі чарга з трэнераў да "Зубраў" не стаяла. Тым не менш смелы чалавек знайшоўся – напрыканцы мінулага тыдня клуб заявіў, што "Дынама" ўзначаліць 39-гадовы канадскі спецыяліст Гордзі Дуаер. Раней канадзец кіраваў харвацкім "Медвешчаком", у свой час правёў у Нацыянальнай хакейнай лізе 108 матчаў за "Тампу", "Нью-Ёрк Рэйнджарс" і "Манрэаль". Адным словам, чалавек не з вуліцы.

Праўда, Дуаеру ў сённяшняй сітуацыі можна толькі паспачуваць. Прыйсці на руіны, каб пабудаваць замак, – справа не вельмі ўдзячная. Да таго ж той самы замак будуецца не адзін год, а кіраўнікі ў нас, як вядома, нецярплівыя. Ім перамогі сёння падавай.

ЛЁС ЧАЛАВЕКА

# З Пецярбурга ў вёску пад Ушачамі

*Вясковец **Валянцін ЮШЧАНКА** калісьці жыў у Санкт-Пецярбургу. Там у яго была сям'я, кватэра і работа. Але потым жыццё мужчыны крута змянілася: ён трапіў у аўтамабільную аварыю. Аб сваім лёсе і пра жыццё ў вёсцы Валянцін Юшчанка шчыра распавёў «Народнай Волі».*

## Ракавое ДТЗ

У тагачасны Ленінград Валянцін з'ехаў вучыцца ў далёкім 1975 годзе з роднай вёскі Вялікія Дольцы Ушацкага раёна. Спецыяльнасць малады чалавек атрымліваў у гарадскім прафесійна-тэхнічным вучылішчы, а жыў у інтэрнаце сярод такіх жа прыезджых.

Там, дарэчы, ён пазнаёміўся з будучай жонкай, якая была з Калінінграда.

– *Гэта быў звычайны інтэрнат для халастых і незамужніх,* – успамінае Валянцін Генадзьевіч. – *На адных паверхах жылі хлопцы, а на іншых дзяўчаты. Мабыць, на гэта і разлік: каб моладзь знаёмілася, жанілася.*

Пасля вучобы беларус атрымаў позву ў армію. Галаўны ўбор, як у марака, падчас нашай гутаркі на вяскоўцы невыпадкова: тры гады Валянцін Юшчанка адслужыў на флоце.



А пасля дэмабілізацыі вярнуўся ў Санкт-Пецярбург.

– *У той час у вялікіх гарадах існаваў ліміт на пражыванне,* – распавядае былы пецярбуржац. – *Каб прапісацца, трэба было адпрацаваць 5 гадоў.*

З часам у Валянціна з'явілася сям'я і ўласная кватэра, якую ён атрымаў, працуючы на Ленінградскім металічным заводзе. Але неўзабаве Юшчанка з слесара перакваліфікаваўся ў кіроўцу, што і змяніла яго далейшае жыццё.

– *Я ўжо працаваў на машыне,* – кажа Валянцін Юшчанка. – *ДТЗ у прыгарадзе адбылося. Мяне таму і даставілі не ў гарадскую, а ў раённую бальніцу. Калі ў сябе прыйшоў, урачы сказалі, што пераломам нагі, маўляў, будзем лячыць... Я і не хваляваўся.*

*Аварыя здарылася ў снежні, скончыліся святы, стары Новы год прайшоў, а я ўсё на выцяжцы ляжаў. А потым яшчэ 4 месяцы гіпсу, калі выпісалі.*

Пра тое, што ДТЗ і бязладнасць урачоў прывядуць да інваліднасці, Юшчанка, вядома, не ведаў. Як высветліцца пазней, яму акажуць некваліфікаваную медыцынскую дапамогу, але штосьці змяніць ужо будзе позна. Маладому чалавеку афармяць другую групу інваліднасці.

Звароты да іншых урачоў карысці не далі.

– *Калі медыкам паказалі здымкі, аказалася, што ў мяне сур'ёзныя праблемы,* – распавядае жыхар Вялікіх Долец. – *Патлумачылі: калі чалавеку здаровую нагу так загіпсаваць, то праз паўгода ён хадзіць не зможа. Адным словам, дапамагчы мне ўжо ўрачы не маглі, бо прайшоў час. Прыйшлося нават карыстацца апаратам Ілізарава, шрубы ўкручваць у нагу.*

Усвядоміўшы, што стаў інвалідам у 33 гады, Валянцін вырашыў вярнуцца на малую радзіму. Да таго моманту ў яго ўжо было двое дзяцей, якія працягнулі вучобу ў вясковай школе пад Ушачамі.

Мой суразмоўца прызнаецца: гараваць аб тым, што здарылася, не было калі.

– *Спачатку я не ведаў, што ўсё так скончыцца,* – кажа Валянцін. – *Праз месяц пасля пералому збіраўся выходзіць на працу. А калі гаворка зайшла аб інваліднасці – было позна хвалявацца. Што адбылося, тое адбылося. Дапамагаць мне не было каму, разлічваў толькі на сябе.*

Паводле слоў Валянціна Юшчанкі, жонка з'язджаць з Пецярбурга не захацела. Некаторы час яны пражылі асобна, а потым жанчына ўсё-ткі пераехала ў вёску. На атрыманыя ад продажу кватэры грошы сям'я купіла трактар з мэтай працаваць у вёсцы і аўтамабіль.

Цэны на нерухомасць, як тлумачыць Юшчанка, у сярэдзіне 1990-х моцна адрозніваліся ад сённяшніх.

– *Санкт-Пецярбург, вядома, прыгожы горад,* – разважае Валянцін Генадзьевіч. – *І працу, думаю, я з часам сабе знайшоў бы. Мяне потым на трэцюю групу перавялі, а яна рабочая. Але я ўжо вырашыў, што паеду ў вёску, цягнула сюды.*

## Адмовіцца ад жонкі не змог

Ужо ў Вялікіх Дольцах Валянцін Юшчанка ўладкаваўся ў мясцовую гаспадарку. Праўда, надоўга яго там не хапіла.

– *Адразу па прыездзе пайшоў у калгас,* – успамінае жыхар Ушацкага раёна.– *За месяц зарабіў на палову балона газу і зразумеў, што з такім заробкам далёка не з'едзеш, таму вырашыў працаваць на сябе. Зямлі каля двух гектараў у мяне было.*

Але з пераездам у сельскую мясцовасць беды ў сям'і Юшчанкаў не скончыліся. Яшчэ ў Пецярбургу ў жонкі здарыўся інсульт, які прывёў да ўскладненняў. За ёй патрэбны быў пастаянны дагляд.

– *Перыяд, вядома, быў няпросты,* – успамінае Валянцін Генадзьевіч. – *Спачатку разводжу дзяцей у садок і школу, потым еду ў бальніцу карміць жонку сняданкам і абедам, бо гэтага там ніхто не рабіў. Пад вечар забіраю дзяцей, укладваю спаць і зноў у бальніцу вячэраць з жонкай.*

У вёсцы некаторыя пыталіся, чаму ён не адмовіцца ад жонкі і не падасць на развод?

– *Я такі чалавек,* – з паўзай адказвае вясковец. – *Калі б кінуў яе, дык душа б была неспакойная. Я ж бачыў, што самастойна жыць яна не ў стане, але адмовіцца не змог. Лічыў, што гэта на маім сумленні застанецца.*

З Маргарытай Валянцін Генадзьевіч пражылі 38 гадоў. У мінулым годзе яна памерла.

## Галоўная гаспадарка – пчолы

Сёння пенсія па інваліднасці Валянціна Юшчанкі складае 170 рублёў. Мужчыну 59 гадоў, але на свой узрост ён не выглядае. Жартуе, што кожны дзень есць мёд, які запавольвае старэнне.

З калісьці вялікай гаспадаркі ў Юшчанкі цяпер толькі куры, пчолы і 14 баразён бульбы. Гэтага хапае дзецям і ўнукам, якія жывуць у Наваполацку.

За гады работы ў вёсцы мясцовы жыхар цалкам расчараваўся ў сельскай гаспадарцы. Нават сфармуляваў прынцып, якога прытрымліваецца і цяпер.

– *Садзіць трэба столькі, колькі зможаш з'есці,* – дзеліцца сваім меркаваннем Валянцін. – *Гэта значыць толькі для сябе. Займацца на продаж абсалютна нявыгадна. Я ж працаваў усе гэтыя гады, ведаю: бульбу выгадуеш, а яе падзець няма куды. Дакладней, так, за капейкі яе возьмуць, а кошт дзяржзакупкі вельмі нізкі. Яблыкі таксама нікому не патрэбны, ходзіш, спатыкаешся. А пра падаткі для фермераў наогул няма чаго казаць...*

Вясковец лічыць, што паспяховыя і багатыя прыватнікі на сяле дзяржаве не патрэбны, таму такія законы і ствараюцца. А як следства – працаваць у вёсцы сёння ніхто і не хоча.

– *Адбілі ахвоту працаваць, надавалі па руках,* – эмацыянальна кажа мой суразмоўца. – *На суседніх агародах людзі раней сеялі, стараліся, а што цяпер? Калі я сюды прыехаў, у вяскоўцаў яшчэ была надзея, працавалі, рух пачынаўся і чым усё скончылася?! Народ проста збег з вёскі. Зараз карову ў людзей з цяжкасцю знойдзеш, а раней, які статак быў...*

Сёння галоўны клопат Валянціна Генадзьевіча – гэта 20 сем'яў пчол. Паводле слоў пчаляра, вытворчасць мёду найменш выдатковы занятак. Пра тое, што некалі давялося з'ехаць з паўночнай сталіцы, мужчына не шкадуе.

Жартуе, што менавіта ў вёсцы адбыўся як бізнесмен.

– *На мяне працуюць мільёны,* – са смехам кажа Валянцін Юшчанка і паказвае на вуллі. – *Што не робіцца ў жыцці, то да лепшага. Вядома, пажыць у маладыя гады ў вялікім горадзе – цікава. Але нічога мяняць я б не стаў. Кожную раніцу выходжу з дому, а для мяне салаўі спяваюць. (Смяецца.)*

**Раман ВАСЮКОВІЧ.**

Фота аўтара.

ДЛЯ ВЯСЁЛАЙ КАМПАНІІ



## Ты мне вясною прыснілася

Словы М.Шушкевіча
Музыка Ю.Семянякі

Летняя ночка купальная
Яснай растаяла знічкаю.
Падаюць зоры світальныя
Ў чыстыя воды крынічныя.

Ой, ты, дзяўчыначка мілая,
Як жа ты свет упрыгожыла!
Ластаўка ты лёгкакрылая,
Светлы мой сон растрывожыла. (2 разы)

Ты мне вясною прыснілася
Неразгаданымі чарамі,
Сэрца парыўна забілася
Вольнымі крыламі-марамі.

Пэўна цябе, ненаглядная,
Стрэў я часінаю ўдалаю.
Ты мая доля спагадная,
І не шкадую не мала я! (2 разы)

ЗНАКОВЫЙ ОБЪЕКТ

## Реконструкция «Беларусьфильма» завершается...

Реконструкция «Беларусьфильма» длится долгих восемь лет, с 2009 года. Но всему есть предел. В ноябре намечен дэдлайн, последний срок сдачи долгостроя. По словам генерального директора студии **Игоря Поршнева,** сейчас практически каждую неделю на территории киностудии вице-премьером Василием Жарко проводятся серьезные совещания: надо во что бы то ни стало успеть завершить стройку к намеченному сроку. «Деньги вложены немалые. В ноябре 2017-го отпразднуем новый день рождения «Беларусьфильма», – сказал Игорь Валентинович.

По планам до 2020 года обновленная киностудия должна будет выпускать 6 полнометражных художественных лент в год и 9–12 фильмов анимационной продукции. Обязательно продолжит работу студия документального кино «Летопись», слухи об упразднении которой оказались преждевременными. Эта студия, может быть, лучшее подразделение «Беларусьфильма»: ее продукция часто отмечалась на международных фестивалях, «Летопись» за время своего существования принесла наибольшее количество наград «Беларусьфильму».

**Елена КИРЕЕВА.**

ЗЕМЛЯКІ

# «Славутыя «пяцьсот» я зарабіў у Чэхіі»

*«Народная Воля» ўжо распавядала пра **Дзмітрыя Гурчонка** з Наваполацка. Малады чалавек працаваў у мясцовай будаўнічай арганізацыі з невысокім заробкам. Хлопец вырашыў змяніць сваё жыццё і з'ехаў з Беларусі. Мы сустрэліся з Дзімам праз паўтара года пасля ад'езду.*

– У Чэхію я трапіў па студэнцкай візе, – *распавядае Дзмітрый Гурчонак.* – Паступіў у чэшскі ўніверсітэт, але вучыцца не збіраўся. Працяг адукацыі я выбраў як спосаб эмігрыраваць. Ужо з першых дзён знаходжання я заняўся пошукам работы.

**– Паспяхова?**

– Пазнаёміўся з рускамоўнымі ўладальнікамі аўтасэрвісу: украінцам і казахам, якія ўжо некалькі гадоў працуюць у Брно. На той момант ім патрэбны быў рабочы з веданнем рускай мовы. У Беларусі я скончыў машынабудаўнічы факультэт Полацкага ўніверсітэта. Пасля службы ў войску некаторы час працаваў у мясцовай будаўнічай арганізацыі. Вялікага досведу не было, але ўладальнікі фірмы мяне ўзялі і нават дапамаглі з афіцыйным афармленнем працоўнай візы.



Каб адкрыць візу, працадаўца абавязаны падаць заяўку на чэшскую біржу працы. Вакансія павінна правісець месяц, пакуль на яе не адгукнуцца чэхі і грамадзяне Еўрасаюза. Гэтага не адбылося, таму ўзялі мяне. Чэшскія працадаўцы не вельмі хочуць браць на працу замежнікаў. Дакладней, яны проста пазбягаюць папяровай цяганіны з афармленнем візы.

У аўтасэрвісе я працую і цяпер.

**– Паступленне ва ўніверсітэт папулярны спосаб для эміграцыі?**

– Так. Многія з Беларусі, Расіі, Украіны з'язджаюць нібыта працягваць адукацыю. Ёсць, вядома, і тыя, хто сапраўды едзе вучыцца пасля школы. Адукацыя бясплатная, таму жадаючых атрымаць дыплом еўрапейскага ўзору дастаткова.

Пасля заканчэння еўрапейскага ўніверсітэта ёсць істотны плюс: у чалавека свабодны доступ на рынак вакансій. Чэхі гатовы браць на працу замежнікаў з мясцовым дыпломам. Трэба разумець, што не так цяжка знайсці работу (месцаў хапае), як няпроста афарміць сваё афіцыйнае знаходжанне.

**– Калі ты не студэнт, то месца ў інтэрнаце таксама няма?**

– Цяпер я здымаю пакой, але вялікай розніцы ў грошах няма. Койка-месца ў інтэрнаце каштавала 140 еўра, цяпер я плачу за жыллё 150 еўра ў месяц.

**– Пэўныя ўражанні за паўтара года, напэўна, склаліся?**

– На сённяшні дзень па чэшскіх мерках я зарабляю мала грошай: каля 500 еўра ў месяц. Так што славутыя «пяцьсот» я зарабіў толькі за мяжой. *(Смяецца.)*

Мне хапае на аплату жылля, харчаванне і нават нешта адкласці магу. Напэўна, столькі я мог бы атрымліваць і ў Беларусі, калі б пашанцавала. Але сэнс у іншым: вяртанне дадому стане для мяне прыпынкам у развіцці, а ў Чэхіі я бачу перспектыву. Ёсць канкрэтныя планы на адкрыццё сваёй справы. І самае галоўнае, што мне дазволяць гэтым займацца.

У Чэхіі менш органаў, якія хочуць карміцца за твой кошт. Афармленне дакументаў значна прасцей і гэтак далей. Вось гэтыя і многія іншыя фактары мяне і матывуюць заставацца там.

**– Мову ты ўжо вывучыў?**

– Дысертацыю на чэшскай я, вядома, не напішу, але размаўляю (разумею) добра. Моладзь, якая імкнецца з'ехаць з Беларусі, не бачыць праблемы ў вывучэнні чэшскай мовы.

**Генадзь МІГУЛЬСКІ.**

НЕ ПРАПУСЦІЦЕ!

## На Рэмбрандта – у Віцебск



*Экспазіцыя гравюр вядомага галандскага мастака будзе працаваць у дні «Славянскага базару».*

На выставе ў Мастацкім музеі горада будзе прадстаўлена 69 твораў.

– *Урачыстае адкрыццё пройдзе 10 ліпеня,* – паведамілі «Народнай Волі» супрацоўнікі музея. – *Але выстава пачне працу на пару дзён раней. Экспазіцыя працягнецца да 23 ліпеня.*

Уваход у музей абыдзецца ў 10 рублёў. Падчас фестывалю ўстанова будзе працаваць да 20.00.

**Васіль КОРЗУН.**

СВЕТСКАЯ ЖИЗНЬ

# Обнаженка в доме Чижа

На Сторожевке в художественной галерее «Предместье» открылась выставка "Венеры соцреализма" – работы в стиле ню белорусских художников XX века. Вопреки стереотипу о пуританизме советского искусства, обнаженная натура всегда интересовала живописцев. Еще в 1920-х годах первые советские вельможи из интеллигентов – Анатолий Луначарский, например, относился к этому вопросу с неким барственно-доброжелательным снисхождением: «Нам нужна здоровая эротика». Ко всему телесному в первые годы после революции отношение было скорее либеральное. Но вот позже, в 1950–1960-е годы, соцреализм – главное направление в советском искусстве – теряет чувственность, гедонизм, сексуальность в изображении женского тела. Эпоха тоталитаризма предлагает свою оптику, свой взгляд на Венеру: тело условно и абсолютно лишено интимности.

Кураторы выставки "Венеры соцреализма" представили много работ известных мастеров старшего поколения – Цвирко, Кищенко, Щемелева, Гомонова, Рогалевича. Но чаще всего это работы их первого, молодого, а то и студенческого периода. Художники учились писать обнаженную натуру, и печать ученичества на многих холстах очевидна. Картины не отличаются высоким мастерством. Тем более в небольшой галерее их буквально, как семечек в арбузе. Они мешают друг другу. Плюс рядом стоит антиквариат. Будто это не выставка, а лавка древностей, а уж заодно и искусств. Собственно, вход в галерею свободный – как и в любой другой магазин.

**Виктория ДРОЗД.**



На фото: минский коллекционер Александр Радаев с женой на открытии выставки.

